## ДРУГОЕ ПАСЛАННЕ ДА ТЭСАЛАНІКІЙЦАЎ

### 1 (1-12)

1 Павел, Сілуан і Цімафей да Касцёла Тэсаланікійцаў у Богу, Айцу нашым, і
Пану Езусе Хрысце: 2 ласка вам і спакой ад Бога Айца нашага і Пана Езуса
Хрыста.
3 Мы павінны заўсёды дзякаваць Богу за вас, браты, і гэта слушна, таму што
ўзрастае вера вашая і павялічваецца любоў кожнага з усіх вас адзін да аднаго.
4 Таму мы самі ганарымся вамі сярод Касцёлаў Божых з прычыны вытрываласці
вашай і веры ва ўсіх ганеннях вашых і ўціску, якія вы зносіце. 5 Гэта доказ
справядлівага суда Божага, каб вы аказаліся вартымі Божага Валадарства, дзеля
якога і церпіце. 6 Бог справядліва адплаціць уціскам тым, хто вас уціскаў. 7 І вам,
якія церпіце ўціск, а таксама нам дасць адпачыць падчас аб’яўлення з нябёсаў
Пана Езуса разам з анёламі моцы Ягонай. 8 *Полымем агню Ён пакарае тых, хто
не пазнаў Бога* і не слухаецца Евангелля Пана нашага Езуса. 9 Яны будуць
пакараныя вечнай пагібеллю і не змогуць убачыць *аблічча Пана і хвалы моцы
Ягонай*, 10 калі Ён прыйдзе ў той дзень праславіцца ў сваіх святых ды здзівіць
усіх, хто паверыў. Вы ж прынялі з вераю нашае сведчанне.
11 Мы заўсёды молімся за вас, каб наш Бог прызнаў вас годнымі паклікання
і з моцаю здзейсніў усялякі добры намер і справу веры, 12 каб праславілася імя
Пана нашага Езуса ў вас, а вы – у Ім, паводле ласкі Бога нашага і Пана Езуса
Хрыста.

### 2 (1-17)

1 Просім вас, браты, наконт прыйсця Пана нашага Езуса Хрыста і нашага
сходу перад Ім, 2 каб вы так хутка не гублялі розуму і не хваляваліся ні з
прычыны Духа, ні слова, ні паслання быццам бы ад нас, што, маўляў, настаў
дзень Пана. 3 Няхай ніхто не зводзіць вас ніякім чынам, бо спачатку прыйдзе
адступніцтва і з’явіцца беззаконны чалавек, сын згубы, 4 які будзе праціўіцца і
ўзвышацца над усім, што называецца Божым і годным пашаны, так што ў
святыні Божай засядзе, выдаючы сябе за Бога.
5 Ці ж не памятаеце, што калі я быў яшчэ сярод вас, казаў вам аб гэтым? 6 І
ведаеце, што цяпер яго трымае аж да часу, калі з’явіцца. 7 Таямніца бязбожнасці
ўжо дзейнічае. Хай толькі той, хто яго трымае, саступіць месца.
8 Тады і з’явіцца *той беззаконнік*, якога Пан Езус *заб’е подыхам вуснаў
сваіх* і знішчыць яго аб’яўленнем свайго прыйсця. 9 А прыход [беззаконніка]
будзе як дзеянне сатаны ва ўсёй сіле, знаках і фальшывых цудах, 10 і з усякім
нягодным ашуканствам тых, якія ідуць на згубу, бо яны не палюбілі праўды,
каб збавіцца. 11 Таму пасылае ім Бог дзеянне подступу, каб яны паверылі
падману, 12 каб былі асуджаны ўсе, якія не паверылі праўдзе, але палюбілі
несправядлівасць.
13 Мы ж павінны заўсёды дзякаваць Богу за вас, умілаваныя Панам браты,
што Бог выбраў вас як першых дзеля збаўлення праз асвячэнне ў Духу і праз

веру ў праўду. [14]Для таго і паклікаў вас праз нашае Евангелле, каб вы сталі
ўдзельнікамі славы Пана нашага Езуса Хрыста.
[15]Таму, браты, трымайцеся і захоўвайце традыцыі, якім навучыліся як праз
слова, так і праз пасланне нашае. [16]Сам Пан наш Езус Хрыстус і Бог, Айцец
наш, які палюбіў нас і даў вечнае суцяшэнне і добрую надзею ў ласцы, [17]няхай
заахвоціць сэрцы вашыя і ўмацуе вас у кожнай справе і добрым слове.

## 3 (1-18)

[1]Нарэшце, браты, маліцеся за нас, каб слова Пана пашыралася і было
праслаўлена, таксама як у вас, [2]і каб мы ўсцерagліся ад людзей крывадушных і
ліхіх, бо не ўсе маюць веру. [3]Верны Пан, які ўмацуе вас і захавае ад ліхога. [4]Мы
ўпэўнены наконт вас у Пану, што вы робіце і будзеце рабіць тое, што мы
наказваем вам. [5]Хай жа Пан пакіруе сэрцы вашыя да любові Божай і
цярплівасці Хрыстовай.
[6]Наказваем вам, браты, у імя Пана нашага Езуса Хрыста, каб вы
асцерагаліся кожнага брата, які жыве ў бязладдзі і нязгодна з традыцыяй, якую
прынялі ад нас. [7]Вы самі ведаеце, як трэба наследаваць нас, бо мы не лайдачылі
сярод вас [8]і ні ў кога не елі хлеба дарма, але цяжка і ў мазалях працавалі дзень і
ноч, каб не абцяжарваць нікога з вас. [9]Не таму, што мы не мелі ўлады, але каб
саміх сябе даць вам як прыклад для пераймання. [10]Калі мы былі ў вас, то
наказвалі вам: калі хто не хоча працаваць, няхай і не есць. [11]Але мы чулі, што
некаторыя сярод вас жывуць у бязладдзі: нічога не робяць, але займаюцца
марнымі справамі. [12]Такім загадваем і заклікаем іх у Пану Езусе Хрысце, каб
яны працавалі ў спакоі і елі ўласны хлеб. [13]Вы ж, браты, не пераставайце рабіць
дабро. [14]Калі хто часам не паслухае словаў паслання нашага, таго асцерагайцеся
ды не сябруйце з ім, каб быў асаромлены. [15]Аднак не лічыце яго ворагам, але
настаўляйце як брата.
[16]Сам Пан спакою няхай ва ўсім і ўсяляк адорвае вас спакоем. Пан з усімі
вамі.
[17]Уласнаручнае прывітанне маё, Паўла, што ёсць знакам у кожным
пасланні. Так я пішу.
[18]Ласка Пана нашага Езуса Хрыста з усімі вамі.

---